*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2020, № 9(55). Жнівень

# Калі ўпершыню загучаў паланэз з пажарнай вежы ў Слоніме?



Прынята лічыць, што ўвесь міжваенны час, ледзь не з 1920 года, з пажарнай вежы ў Слоніме двойчы за дзень (а 8-й і 20-й гадзінах) гучала мелодыя паланэза Міхала Клеафаса Агінскага "Развітанне з Радзімай".[1] У савецкія часы традыцыя спынілася, яе аднавілі 23 траўня 2015 года. Паланэз стаў гучаць штодня а 12-й гадзіне. Толькі ўжо не з каланчы (былой стайні, вежа якой не захавалася, цяпер там склад), а з былой воданапорнай вежы, якую памылкова называлі "гарадской пажарнай каланчой".[2] Цяпер ён гучыць праз сістэму апавяшчэння грамадзянскай абароны, усталяванай на будынку былога камбіната бытавога абслугоўвання (уключаецца аўтаматычна ўжо не са Слоніма, а з Гродна)[3]. А ў міжваенны час мелодыю выконваў на музычным інструменце на вежы адзін з

*Працяг на ст. 2*

# "Другія саветы"



У кнізе даследчыка Аляксандра Татаранкі пра пасляваенную Заходнюю Беларусь* у дадатку змешчаны сотні архіўных дакументаў. Сярод іх — рассакрэчаныя дакументы Баранавіцкага аблвыканкама. Яны ілюструюць падзеі ў другой палове 1940-х — у пачатку 1950-х гадоў, у тым ліку і на Слонімшчыне. На жаль, не ўсе дакументы дазваляюць прасачыць гісторыі цалкам. Тым не менш, яны ярка характарызуюць сітуацыю, калі на заходнебеларускіх землях устанаўлівалася савецкая ўлада, а значная частка насельніцтва супраціўлялася — пасіўна ці актыўна. Татаранка, дарэчы, дае вельмі жорсткія ацэнкі тым падзеям і падмацоўвае свае высновы фактамі.

Згадаем пра некаторыя

*Працяг на ст. 3*

# Калі ўпершыню загучаў паланэз з пажарнай вежы ў Слоніме?

пажарных.

Удалося высветліць, што насамрэч мелодыя паланэза загучала з каланчы толькі ў пачатку 1930-х гадоў. У ліпені 1930-га газета “Навагрудскае жыццё” пісала, што *“ад пэўнага часу”* слонімскія пажарныя пачалі выконваць з пажарнай вежы мелодыю — а 8-й і 20-й гадзінах. Але гэта быў хейнал марыяцкі ці кракаўскі[4] — музычны сімвал Кракава, які гучыць штогадзіну з вежы Марыяцкага касцёла ў згаданым польскім горадзе. Аўтар зацемкі падкрэсліваў, што і выкананне не зусім дакладнае, ды і не мае гэтая мелодыя ніякага дачынення да нашага горада. Таму ён прапанаваў пажарным ужываць мелодыю з паланэза Агінскага, *“напісанага ў Слоніме”*. І ён мог бы стаць такой жа традыцыяй, як і хейнал у Кракаве. Праўда, аўтар памылкова лічыў, што напісаў паланэз слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі. Насамрэч, яго аўтар — Міхал Клеафас Агінскі (пляменнік). Ён бываў у Слоніме ў свайго дзядзькі, доўга тут жыў. Але прынята лічыць, што паланэз быў напісаны ў Залессі на Смаргоншчыне ў 1794-м.

Дык хто быў аўтарам згаданай зацемкі і прапановы, каб з вежы ў Слоніме гучала мелодыя паланэза “Развітанне з Радзімай”? Найхутчэй мясцовы краязнаўца і журналіст Віктар Клімкевіч. Яго пачулі. Кіраўніцтва пажарнай варты падтрымала прапанову аб стварэнні *“слонімскага хейнала”*, але наракала на адсутнасць нот паланэза. Тады “Навагрудскае жыццё” заклікала чытачоў дапамагчы ў гэтай справе.[5]

Гэта быў верасень 1930 года. Мы можам смела сцвярджаць, што да таго часу мелодыя паланэза не гучала з вежы ў Слоніме.

Праз два гады гісторык Валер’ян Харкевіч пісаў у газеце “Навагрудскі кур’ер”, што *“з нядаўняга часу”* з пажарнай вежы ў Слоніме загучаў *“прыгожы хейнал, які з’яўляецца адпаведна прыстасаваным фрагментам з паланэза Агінскага”.* Сцвярджалася, што гучаў ён а 5-й раніцы і а 20-й гадзіне.[6] Магчыма, што згадка пра 5-ю гадзіну, а не пра 8-ю — памылка аўтара, чалавека немясцовага, ці набору ў друкарні. Але варта праверыць у іншых крыніцах.

Такім чынам, у пачатку восені 1932-га паланэз ужо гучаў. Дакладнай даты, калі гэта адбылося ўпершыню, пакуль не маем. Але ў новых публікацыях, сюжэтах на тэму ўжо варта рабіць карэкціроўку: традыцыя была запачаткавана не ў пачатку 1920-х гадоў, а ў пачатку 1930-х. Прыемна, што гэта найхутчэй была прапанова слонімскага краязнаўцы.

●Сяргей Ёрш

**Hejnał Słonimski**

Od pewnego czasu Straż Ogniowa Ochotnicza w Słonimie wprowadziła piękną inowację wygrywania hejnału o godzinie 8-ej i 20 z wieży strażackiej. Inicjatywę tą należy powitać z wielkiem uznaniem, chcielibyśmy tylko podkreślić, że w wykonaniu jej są pewne niedociągnięcia.

Piękny hejnał krakowski jest czemś, co związane jest ściśle z samym Krakowem i jego historją. Grywany w Słonimie, i to trochę niedokładnie jest małowartościowem naśladownictwem.

Radzilibyśmy Straży Ogniowej, jako motywu grywania hejnału, którego zwyczaj powinien zachować się nadal, użyć zwrotu z poloneza Ogińskiego, pisanego w Słonimie. Wielka i szeroka działalność Ks. Ogińskiego porostanie na zawsze związana z przeszłością Słonima, a pięknego motywu hejnału nikt Słonimowi nie odbierze, gdyż byłby on dla innego miasta tak samo bez głębszej wartości, jak hejnał krakowski dla Słonima.

**Nowe kłopoty Słonimskiej Straży Ogniowej**

W związku ze wzmianką na
sza w kwestji melodji granego
w Słonimie hejnału, dowiaduje
my się że Zarząd Straży Ognio
wej w Słonimie uznał całkowi
cie słuszną naszą uwagę w tej
kwestji, lecz w realizacji poda
nego projektu natrafił na znaczne
kłopoty w postaci niemożności
zakupienia nut słynnego polo
neza Ogińskiego, z którego ma
być wzięta melodja do hejnału
słonimskiego. Chcąc „dopomóc
Straży Ogniowej w urzeczywist
nieniu dobrych jej chęci, zwra
camy się tą drogą do szanow
nych naszych czytelników o od
stąpienie lub wypożyczenie sło
nimskiej Straży Ogniowej nu
wspomnianego poloneza.

Зацемкі ў навагрудскай газеце

*[1] Алько А. Спустя 80 лет в Слониме вновь зазвучал полонез Огинского // Газета Слонімская, 2015, № 23, 3 чэрвеня; Відэа Юрыя Булыкі “У гэты дзень у Слоніме згарэла 576 дамоў! Віртуальная эскскурсія ў гісторыю пажарнай службы” // https://www.youtube.com/watch?v=cr_sjcc_fxc*

*[2] Пра гэта гл. тут: Ёрш С. Зноў пра пажарную каланчу ў Слоніме // Слонімскі край, 2019, № 7(41). Ліпень. С. 3-4.*

*[3] Паведамленне Юрыя Булыкі // vk.com/mojslonim, 30 траўня 2020 г.*

*[4] Życie Nowogródzkie, 1930, № 157, 10 ліпеня.*

*[5] Życie Nowogródzkie, 1930, № 215, 14 верасня.*

*[6] Kurjer Nowogródzki, 1932, № 233, 20 верасня.*

# "Другія саветы"

## Здарэнне з каровай са Слоніма абмяркоўвала абласное кіраўніцтва

Працяг, пачатак на ст.1

выпадкі на Слонімшчыне.

### НКУС і вуллі

У снежні 1944-га намеснік начальніка УНКУС Баранавіцкай вобласці падпалкоўнік міліцыі Гарачоў прасіў абласныя ўлады даць распараджэнне Слонімскаму райвыканкаму наконт 16 вулляў з пчоламі. Іх мусілі перадаць гаспадарцы дзіцячага прыёмніка-размеркавальніка НКУС у Слоніме "для лепшага забеспячэння харчавання выхаванцаў, якія паступаюць у ДПР у *истощённом* стане". У жніўні 1948 года выхаванцаў дзетпрыёмніка МУС Корабава і Цвяткова накіравалі на Слонімскі хлебакамбінат *"для навучання і выхавання"*. Аднак дырэктар прадпрыемства Граковіч і загадчык вытворчасці Саліеў *"не выказалі да сіротаў неабходнага клопату, прадаставіўшы іх самім сабе"*. Месяц хлопцы, бацькі якіх загінулі на фронце, жылі ў непрыдатным памяшканні, спалі *"на голай падлозе"*, не былі забяспечаны адзеннем і абуткам. У іх завяліся вошы. У выніку адзін збег, а другі трапіў у гарадскую бальніцу. Справу разглядаў Баранавіцкі аблвыканкам. Дырэктар хлебакамбіната атрымаў строгую вымову, а Саліева мусілі звольніць.

### Задзірлівая лейтэнант С-на

У жніўні 1945 года вайсковае начальства думала, што рабіць з лейтэнантам С-най. Яна служыла ў Слоніме, але *"служыць не хоча, паводзіць сябе задзірліва"*. Начальства прасілі яе "неадкладна звольніць, паколькі знаходжанне яе на службе дзейнічае *разлагающе*".



*Руіны ў цэнтры Слоніма. Здымак з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў. Зіма 1944-1945 гадоў*

### Алей для завода

У пачатку 1945-га абласныя ўлады разглядалі выпадкі "разбазарвання" дзяржаўнай маёмасці раённым кіраўніцтвам. У дакуменце чытаем: "Асабліва шмат фактаў самавольнага разбазарвання ў Слонімскім раёне, дзе старшыня райвыканкама (тав. Галоўчанка) распарадзіўся выдаць 150 кг алею лесапільнаму заводу для змазкі механізмаў, замест аўтола, маюць месца масавыя выпадкі, калі па яго запісках і вусных распараджэннях выдаецца скура з скурзавода, валёнкі, аўчына і іншае". Чыноўнікам прыгразілі адказнасцю.

### Сена для турмы

У красавіку 1945-га Баранавіцкі аблвыканкам зац-

Працяг на ст. 4

# “Другія саветы”



*Разбураны мост у цэнтры Слоніма. Здымак з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў. Зіма 1944-1945 гадоў*

вердзіў рашэнне Слонімскага райвыканкама аб передачы 14 гектараў сенакосу з дзяржаўнага зямельнага фонду Шылавічы... слонімскай турме пад падсобную гаспадарку.

## “Трафейная” карова

На працягу 1945 года “трафейных” кароў гналі статкамі з Германіі ў СССР. Было шмат розных здарэнняў, калі мясцовыя начальнікі спрабавалі “рэквізаваць” сабе адну-дзве каровы. Аднак размяркоўвалі іх сярод чыноўнікаў і цалкам легальна. 19 снежня 1945-га старшыня Баранавіцкага аблвыканкама выдаў распараджэнне выдаць загадчыку аддзелам школ абкама КП(б)Б Грыгор’еву *“1 карову ў асабістае карыстанне... з ліку трафейных”*. Высветлілася, што 5 снежня чыноўнік *“атрымаў па квітанцыі карову ў горадзе Слоніме, а 10 снежня 1945 года раніцай карова, узламаўшы рагамі і капытамі дзверы, сышла з падворку і пошукі міліцыі ні да чаго не прывялі, а купіць карову загадчык аддзелам абкама партыі не мае сродкаў”*. У выніку справу каровы разгледзеў кіраўнік вобласці. На гэты раз Грыгор’еў атрымаў яе ў Баранавічах.

## Пра старшыню сельсавета, які “маральна расклаўся”

10 студзеня 1947 года Баранавіцкі аблвыканкам прыняў рашэнне “Аб антыдзяржаўнай практыцы старшыні Трыбушскага сельскага савета Слонімскага раёна Д-к”. Ён “замест мабілізацыі сялян на выкананне дзяржаўных заданняў і арганізацыі масавай працы ў сельскім савеце, займаўся п’янствам, крадзяжом дзяржаўных пасеваў, акружыў сябе кулацкімі элементамі і адарваўся ад асноўнай масы працоўных сельскага савета, зрываў усе важныя дзяржаўныя заданні”. Д-к “маральна расклаўся”, не толькі прысвойваў дзяржаўную маёмасць (у тым ліку сельскагаспадарчыя прадукты), але і раздаваў яе *“сваім знаёмым-прайдзісветам”.* Сялян вёсак Масілавічы і Кошлавічы ён прымусіў пасеяць, убраць і прывезці яму дахаты ўраджай з 6 гектараў (што менавіта, невядома), сялян вёскі Пагор’е — сена з 5 гектараў. Сцвярджаецца, што старшыня *“сістэматычна збіваў грамадзян, запалохваў і пагражаў”.* Сярод пацярпелых быў інвалід вайны Б., якога ён выкінуў з дома, а сам дом заняў. Д. з пасады знялі і аддалі пад суд.

## Суддзя, які збіваў грамадзян

30 ліпеня 1947 года старшыня Баранавіцкага аблвыканкама Бандарэнка выдаў распараджэнне № 464 аб адхіленні ад пасады народнага

суддзі 1-га ўчастка Слонімскага раёна С. Р-на. Прычына была не ў яго прафесійнай дзейнасці, а ў "грамадскай нагрузцы". Р-н быў упаўнаважаным райвыканкама і раённага камітэта кампартыі па лесавывазцы, якой мусілі займацца сяляне. Пры гэтым *"паводзіў сябе нетактычна і груба з грамадзянамі, выкарыстоўваючы пры гэтым нецэнзурныя словы і збіваючы грамадзян — у Глоўсевіцкім сельскім савеце 28.7.1947 года нанёс пабоі гр. Ст-віч І. І. і гр. Пар-ч аблаяў нецэнзурнымі словамі і плюнуў у твар апошняму".*

## Людзі ў зямлянках

10 кастрычніка 1947-га Баранавіцкі аблвыканкам прыняў рашэнне аб перасяленні вяскоўцаў з зямлянак. У Слонімскім раёне ў зямлянках у той час жыла 21 сям'я.

## "Падчас праведзенагаператрусу хлеб знойдзены і вернуты"

У студзені 1952 года з'явілася дакладная старшыні аблвыканкама Ледзянёву "Пра факты крадзяжу матэрыяльных каштоўнасцяў і злоўжываннях у калгасах вобласці". У гэтым дакуменце чытаем: "У Слонімскім раёне ў многіх калгасах крадзяжамі займаюцца старшыні калгасаў і брыгадзіры. Старшыня калгаса ім. Сталіна Пятралевіцкага сельскага савета Б-к Аляксандр Міхайлавіч, брыгадзір Л-к і кладаўшчык М-к займаліся крадзяжом хлеба і перапрацоўкай яго на самагон. Следствам пацверджана, што імі з калгаснай кладавой скрадзена 230 кг мукі, з якой перапрацавана на самагон 100 кг. Брыгадзір калгаса "Праўда". Міжэвіцкага сельскага савета Н-віч, член рэвізійнай камісіі С-віч і калгаснік І-віч у розны час скралі зерня — грэчыхі — 307 кг. Падчас праведзенагаператрусу хлеб знойдзены і вернуты калгасу. Старшыня калгаса "Чырвоная Зорка" Трэбушскага сельскага савета З-ў скраў з калгаса 66 кг жыта. Следчыя матэрыялы ў дачыненні пералічаных 3 фактаў крадзяжоў хлеба перададзены пракурору Слонімскага раёна для далейшага расследавання і прыцягнення вінаватых да крымінальнай адказнасці".

## Шматдзетную маці адправілі ў лагер і пазбавілі медаля

Баранавіцкі аблвыканкам 20 ліпеня 1951 года прыняў рашэнне аб пазбаўленні ўрадавай узнагароды "Медаль Мацярынства" 1 ступені шматдзетнай маці Аляксандры Раманаўны Сілівончык, жыхаркі вёскі Войнавічы Казлоўшчынскага раёна. Прычынай стала тое, што жанчыну асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі за антысавецкую агітацыю. У 1948-м Баранавіцкі аблвыканкам разгледзеў скаргу жыхаркі Слоніма К-ка. Яе муж загінуў на вайне, у яе было 4 дзяцей. Яна сцвярджала ў скарзе, што слонімскія чыноўнікі гвалтам перасялілі яе сям'ю з дзецьмі на ўскраіну горада ў неадрамантаваную кватэру, пакінуўшы без агароду, не дапамаглі ўладкавацца на працу і *"пагражалі судом забраць у яе дзяцей"*. У Баранавічах вырашылі скаргу адхіліць.

## Бульба на магілах

У пачатку 1951-га камандаванне Беларускай вайсковай акругі атрымала заяву чатырох жыхароў Слоніма Міхайлоўскага, Манькоўскага, Бабровай і Самсон. Яны былі абураныя, што ветэрынарны лекар В. Ч. на месцы некаторых магіл расстраляных падчас нямецкай акупацыі савецкіх вайскоўцаў і грамадзян у раёне Шасейнай вуліцы і яўрэйскіх могілак пасадзіў... бульбу (ён жыў побач). Мясцовыя чыноўнікі і міліцыя на іх звароты не адрэагавалі, таму быў напісаны ліст у Мінск. У выніку справу ў лютым 1951-га вывучала камісія, быў складзены акт. У гэтым дакуменце шмат прозвішчаў тагачасных жыхароў Шасейнай і Зялёнай вуліц, якія былі апытаныя. Высветлілася, што Ч. "захапіў" частку магіл і без дазволу. Камісія выявіла і шмат іншых няўлічаных пахаванняў ахвяр вайны ў горадзе. Сітуацыю мусілі выправіць.

## Пашпарт для "дачкі кулака"

У ліпені 1951 года з Казлоўшчынскага райвыканкама ў Баранавіцкі аблвыканкам прыйшоў запыт: "Сакрэтна... У выканкам Казлоўшчынскага раённага савета... звярнулася грамадзянка К-я Н. Л., дачка кулака, які цяпер асуджаны і знаходзіцца... у зняволенні. К-я... зімой уступіла ў шлюб і выбыла ў гор. Слонім, цяпер хадайнічае перад райвыканкамам пра выдачу ёй дакументаў на атрыманне пашпарта. Выканкам Казлоўшчынскага раённага Савета просіць патлумачыць, ці можна выдаваць дакументы на атрыманне пашпарта кулакам і іх дзецям".

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

**Татаренко А. Горькие годы: Трагедия Западной Беларуси 1944—1954. — Минск: 2017.*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6-8, 2020 г.*

## Восіп, Рамуальд і Лявон Пржэцлаўскія

Унукамі Гедэона Казіміравіча Пржэцлаўскага (Працлаўскага) былі Восіп, Рамуальд і Лявон Пржэцлаўскія (Працлаўскія). Яны нарадзіліся ў Слонімскім павеце ў мястэчку Ружаны, якое арандаваў іх бацька Антон Гедэонавіч Пржэцлаўскі (Працлаўскі). У пачатку 1812 года сям'я набыла ў Іосіфа Палубінскага маёнтак Львоўшчына ў Слонімскім павеце. На той час старэйшаму брату Восіпу было 12 гадоў, сярэдняму брату Рамуальду — 10, а малодшаму Лявону — 7 гадоў. У трох братоў будзе свой жыццёвы шлях, свой лёс, не падобны адзін да другога.

Восіп Антонавіч Пржэцлаўскі (1799 — 1879) быў вельмі складанай, неадназначнай асобай. Ён меў свае ўласныя, часта спрэчныя перакананні і погляды на жыццё, і сваё месца ў ім. Вучыўся ў Віленскім універсітэце разам з Адамам Міцкевічам, удзельнічаў у студэнцкім гуртку філарэтаў. З іншага боку, Восіп Пржэцлаўскі — прафесійны журналіст, дзяржаўны дзеяч Расійскай імперыі, польска-расійскі публіцыст, мемуарыст, які зрабіў выдатную кар'еру ў Міністэрстве ўнутраных спраў, а таксама ў Галоўным упраўленні цэнзуры. З 1830 года Восіп Пржэцлаўскі выдаваў афіцыйны ўрадавы часопіс "Tygodnik Petersburgski", які быў разлічаны на польскамоўных расійскіх падданых. У 1872 годзе ён выдаў мемуары пад назвай "Калейдаскоп успамінаў". Шмат старонак сваіх успамінаў аўтар прысвяціў роднай Слонімшчыне.



*Слонімскія паўстанцы 1830-1831 гадоў Міхал Валовіч і Лявон Пржэцлаўскі*

За асуджэнне паўстання 1830-1831 гадоў Восіп Пржэцлаўскі быў асуджаны польскім эміграцыйным камітэтам да смяротнага пакарання. Прысуд быў выкананы… над яго партрэтам, які быў спалены ў Парыжы. Два браты Восіпа Рамуальд і Лявон Пржэцлаўскія прынялі ўдзел у паўстанні ў 1831 годзе на Слонімшчыне. Яны ўступілі ў паўстанцкі атрад на чале з памешчыкамі Антонам Бронскім (уладальнікам маёнтка Ісаевічы) і Сцяпанам Незабытоўскім (уладальнікам маёнтка Горка). Разам з імі са зброяй у руках ваявалі Казімір Валовіч з сынам Міхалам.

Паўстанне было задушана рускімі войскамі. Многія з паўстанцаў развіталіся з радзімай, сталі эмігрантамі-выгнаннікамі. Лявон Пржэцлаўскі працягнуў барацьбу ў эміграцыі. Разам са сваім сябрам Міхалам Валовічам ён рыхтаваўся перайсці мяжу, каб падняць сялян на новае нацыянальна-вызваленчае паўстанне.

У той час яго родны брат, былы засядацель Слонімскага земскага суда Рамуальд Пржэцлаўскі 26 кастрычніка 1832 года даў добраахвотна паказанні для Гродзенскай губернскай камісіі, якая разглядала справу па "мяцяжу"

1831-га. Ён назваў прозвішчы ўсіх паўстанцаў. Па яго звестках, у слонімскім атрадзе было 60 пешых і конных узброеных паўстанцаў: 22 памешчыкі Слонімскага і іншых паветаў, а таксама 38 сялянаў.

## IV. Апошнія ўладальнікі маёнтка Старыя Жыровічы Мікульскія

### 4.1. Род Мікульскіх герба Сас на Слонімшчыне

Ад 1773 года да 17 верасня 1939 года маёнтак Старыя Жыровічы належаў шляхецкаму роду Мікульскіх герба Сас. 19 кастрычніка 1773-га ў Слонімскім павятовым судзе Канстанцінам Антонавічам Пржэцлаўскім быў здзейснены продаж маёнтка Старыя Жыровічы слонімскаму суддзі Аляксандру Мікульскаму.




*Радавод Мікульскіх*

Непадалёку ад старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага горада Наваградка, побач з легендарным возерам Свіцязь знаходзіцца і сёння вёска Мікулічы. Назву яна атрымала ад Мікулы, які і заснаваў гэтае паселішча. У 1692 годзе Ян Марцінавіч Мікульскі атрымаў ад свайго дзеда Васіля Андрэя Войніча Мікульскага маёнтак Мікулічы ў Навагрудскім павеце. А яго маёмасць ужо перайшла ў валоданне да яго сыноў Дамініка, Тамаша і Стэфана.

Сувязь шляхціч аў Мікульскіх са Слонімшчынай прасочваецца з XVII стагоддзя. У XVIII стагоддзі ў Слонімскім павеце яны мелі шэраг маёнткаў і лічыліся адной з заможных і ўплывовых сем'яў. "Кур'ер Літоўскі" ад 3 красавіка 1761 года паведамляў, што на сейм ад Слонімскага павета былі абраны два дэпутаты: маршалак слонімскі Валовіч і войт слонімскі Мікульскі. У 1767-м у адным з дакументаў згадваецца суддзя слонімскі Міхал Мікульскі.



*Герб Сас роду Мікульскіх*

●Святлана Брайчук

*Працяг у наступным нумары*

# Гальяш Леўчык застаецца загадкавай асобай

140 гадоў таму, 20 ліпеня 1880 года, у Слоніме нарадзіўся Гальяш Ляўковіч, беларускі паэт, музыкант, мастак, калекцыянер, больш вядомы як Гальяш Леўчык. Ён дагэтуль застаецца асобай загадкавай, недаследаванай і цікавай.



Гальяш скончыў Слонімскае гарадское вучылішча, быў пісарчуком у каморніка (землямера), пасля працаваў у канцылярыі міравога суддзі. Ён вывучыўся на чарцёжніка і, шукаючы лепшага жыцця, паехаў у Варшаву. Там Ляўковіч працаваў у будаўнічым аддзеле Варшаўскага магістрата. Спроба ў пачатку 1920-х перабрацца ў Вільню была няўдалай — слонімец застаўся ў польскай сталіцы, жыў там на становішчы то дробнага служачага, то беспрацоўнага. Сувязі са Слонімам не перарываліся — тут жылі сваякі, тут у яго была невялікая хатка.

З 1907 года Гальяш Ляўковіч супрацоўнічаў з віленскай беларускай газетай “Наша ніва”, дасылаў вершы, якія падпісваў псеўданімам Гальяш Леўчык. Гэтае выданне моцна прывязвае варшаўскага інтэлігента да беларускай справы, уводзіць яго ў свой “актыў”. У Варшаве Гальяш Леўчык аб’ядноўваў вакол сябе мясцовых беларусаў, аказваў бясконцыя сяброўскія паслугі новым сябрам і знаёмым: апекаваўся прыезджымі, гуртаваў іх у зямляцтва, каб не прапалі ў вялікім горадзе і не забыліся беларускай мовы. А яшчэ слонімец збіраў сродкі на пасмяротнае выданне зборніка твораў Сяргея Палуяна, платную рэкламу для “Беларускага календара”…

У вольны час наш зямляк займаўся творчасцю: пісаў вершы, перакладаў з польскай і рускай моваў, апрацоўваў беларускі фальклор. У 1912 годзе ў Вільні выйшаў першы зборнік вершаў Гальяша Леўчыка “Чыжык беларускі”. У 1980-м беларускі літаратуразнавец Янка Саламевіч сабраў і апублікаваў асобнай кнігай выбраныя творы паэта пад загалоўкам “Доля і хлеб”. Яна выйшла да 100-годдзя з дня нараджэння паэта.



Haljaš Leŭčyk.

ČYŽYK BIEŁARUSKI.

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык вельмі хацеў выдаць яшчэ некалькі сваіх кніг. “Чыжык беларускі”, які выйшаў беларускай лацінкай, мусіў з’явіцца і кірыліцай. Былі падрыхтаваны да друку зборнік трыялетаў “Мудра прыгаворка — соладка і горка”, паэтычны зборнік “Жаўранак беларускі”, брашура сатырычных карыкатур. Слонімец марыў, каб выдаць на беларускай мове папулярныя ў тыя гады польскія і рускія песні ў сваім перакладзе, а таксама паэму “Дзяды” Адама Міцкевіча па-беларуску. На ўсе гэтыя выданні ён па крупінцы, амаль галадаючы, збіраў у Варшаве злотыя. Збіраў і высылаў іх у Вільню выдаўцам, дамаўляўся з імі, загадзя плаціў, а яны так і не надрукавалі ніводнай яго кнігі ў тыя 1920-я гады. Гэтыя людзі ашуквалі Гальяша Леўчыка сваімі абяцаннямі, а ён ім верыў, чакаў, дасылаў лісты, аддаваў апошнія грошы. І з надзеяй чакаў сваіх кніг. Але гэтыя надзеі былі марныя.

Невядома, ці змог паэт вярнуць грошы, але яго кнігі ў Вільні так і не пабачылі свету (акрамя згаданай першай). Шырокія планы і цікавыя задумкі былі ў слонімца Гальяша Леўчыка, але вельмі малыя магчымасці. Вельмі шкада…

●Сяргей Чыгрын

# Як можна ўшанаваць у Слоніме памяць Гальяша Леўчыка

Гальяш Ляўковіч (Гальяш Леўчык, 1880 — 1944) быў вельмі таленавітым чалавекам. У той жа паэзіі ён мог дасягнуць зусім іншых вышынь, але свядома на ёй не канцэнтраваўся, бо меў іншыя шматлікія захапленні. Найперш калекцыянаванне, краязнаўства. Ён збіраў разнастайныя матэрыялы і пра Беларусь, і пра Слонімшчыну, хацеў напісаць гістарычны нарыс пра наш горад. Журналістыка, публіцыстыка, пераклады, у тым ліку і рэлігійныя — і гэта пра Ляўковіча. А яшчэ ён спрабаваў сябе ў фотасправе, у музыцы, маляваў. Цікавіўся ўсім новым, перадавым, што з'яўлялася ў свеце (тым жа кіно). Такое ўражанне, што Гальяш Ляўковіч доўгі час быў у пошуку, распыляў свае творчыя сілы, ніяк не мог сканцэнтравацца на галоўным, не мог зразумець, а што ж з'яўляецца галоўным. А яшчэ была грамадская дзейнасць, найперш у Варшаве сярод беларусаў. А ў родным Слоніме ён марыў пабудаваць Беларускі Дом, такі асветны цэнтр для землякоў.

Шмат якія праекты не былі рэалізаваны з-за нястачы сродкаў, з-за празмернай даверлівасці — на шляху слонімца хапала няшчырых людзей. Некаторыя рашэнні былі памылковыя. І разуменне гэтага не дадавала аптымізму…

Кім Гальяш Ляўковіч быў бы сёння? Відэаблогерам, шмат пісаў бы ў сацсетках. Маючы працу ў Мінску, рэгулярна наведваў бы Слонім. Улічваючы яго энергію, можна ўявіць, колькі розных культурніцкіх імпрэз прайшло б з яго ініцыятывы.

І вельмі сумна, што ў Слоніме пакуль ніяк не ўшанавана памяць Гальяша Ляўковіча.



*На гары ў Рышчыцах, пра якую пісаў Гальяш Леўчык*

Чалавека, які думаў больш пра людзей, чым пра сябе. Які спрабаваў зазірнуць у будучыню. Да якога прыязджаў народны паэт Янка Купала. Публікацыі пра якога рэгулярна з'яўляюцца ў мясцовым, рэспубліканскім і замежным друку.

Дык што мы можам зрабіць? Безумоўна, у горадзе павінна быць вуліца імя Гальяша Леўчыка. У будучыні пры спрыяльных эканамічных варунках можна было б стварыць яго музей у аднаўленай хатцы. Але самае простае і рэальнае — стварэнне сімвалічнай магілы. Слонімец памёр ці загінуў у 1944-м у Польшчы, месца яго пахавання невядомае. Дзе магла б быць гэтая магіла, напісаў сам паэт вясной 1938-га года — на могілках "на гары ў Рышчыцах". У вершы "Маё Ўваскрасення" Гальяш Леўчык пісаў:

*На высокай гары, дзе ніхто не гарэ,*
*Леўчыка Гальяша косьці лягуць,*
*Туды зблізка, здалёк, дзе*

*Працяг на ст. 10*

# Як можна ўшанаваць у Слоніме памяць...

*Працяг, пачатак на ст. 9*

*навек Леўчык лёг,*
*Ўспамянуць беларусаў прыцягнуць.*
*Від з высокай гары на лугі і бары,*
*І на Слонім, дзе Шчара сінее —*
*Блізка Слонім ляжыць, блізка Шчара бяжыць, —*
*На гары яго крыж завіднее!*
*У гробе Леўчык згніе, але памяць жыве —*
*На Дзяды Беларусь успамінаюць:*
*Як калісьці была, як калісьці жыла —*
*Дзеткі творы паэтаў чытаюць…*
*З той высокай гары, пад дамы і муры*
*На Дзяды будзе духам злятаці:*
*Раз заўсёды у год прыйдзе духам у народ —*
*У гэту ноч будзе ён ажываці!..*

Ляўковіч бываў у Рышчыцах, любіў з высокай гары аглядаць наваколле. Так, яго косці там не лягуць. Але сімвалічная магіла была б хоць частковым выкананнем запавету паэта. На той гары знаходзяцца старыя рышчыцкія могілкі, часткова занядбаныя, а побач — могілкі вайскоўцаў Першай сусветнай вайны. З'яўленне магілы Гальяша Леўчыка толькі б паспрыяла добраўпарадкаванню гэтага месца. Туды можна было б прыводзіць школьнікаў, турыстаў.

Вось такая прапанова. Яе можна было б рэалізаваць у бліжэйшыя гады сіламі слонімцаў з дазволу і спрыяння мясцовых уладаў.

●Сяргей Ёрш

# Даведка аб сацыяльным паходжанні

У ліпені 2020-га на сайце ay.by жыхар Ваўкавыска прадаваў нумар слонімскай раённай газеты "Вольная праца" (1940, № 76(110), 15 жніўня), якому ўжо 80 гадоў. Даваенныя нумары выдання даволі рэдкія. "Пагартаем" старонкі. Значную частку аб'ёму газеты складаюць матэрыялы пра жыццё СССР, рэспублікі. І шмат перадрукаў розных указаў, законаў, камуністычнай прапаганды. Наўрад ці чытаць гэта было вельмі цікава слонімцам.

Мясцовых навінаў у нумары мала. Іх паставілі на апошняй, чацвёртай старонцы. П. Дабрыян пісаў пра сустрэчу ў Слонімскім Доме сацкультуры (так назвалі былы Народны дом) *"300 чалавек камсамольска-маладзёжнага актыва і прызыўнікоў раёна"* з героем Савецкага Саюза таварышам Ватагіным, які расказваў пра баі *"з фінскай белагвардзейшчынай"*. Ад моладзі лесапільнага завода № 16 выступіў *"рабочы-стаханавец тав. Грынчук"*, ад піянераў горада прамаўляла Вера Пытэль. У зацемцы згадваецца і таварыш Карт — сакратар Слонімскага райкама камсамола.

У іншай зацемцы старшы інспектар Слонімскага раённага фінаддзела Язвінскі піша, што *"ў Альбертынскім і Акунінаўскім сальсаветах"* калектыўнае страхаванне *"толькі часткова праведзена"*.

Н. Хомчык піша пра жніво ў Акунінаўскім сельсавеце. Яго старшынём тады быў Бакавец. Брыгадзір калгаса імя Молатава таго ж сельсавета Іван Рубец прысвяціў артыкул сваёй "невялікай" брыгадзе калгаснікаў з 38 чалавек. Згадаем тых, каго працу ён адзначыў: Ульяна, Вера і Алесь Аўсейчыкі, Ганна Сядляр, Пелагея Верамейчык, Фёдар Рыла, Іван Пятровіч, Вікенцій Бонк, Іосіф Рыла, Мікіта Рубец, Іосіф Бірук, Філіп Цупрыяновіч.

Але самае цікавае, на наш погляд, у згаданым нумары "Вольнай працы" — гэта дзве аб'явы на апошняй старонцы. Высвятляецца, што пры наборы вучняў у Беларускую сярэднюю школу № 1 горада Слоніма сярод іншых дакументаў ад іх патрабавалася *"даведка аб сацыяльным паходжанні і сацстановішчы"*.

●Генадзь Гурскі



АБ'ЯВА
Беларуская сярэдняя школа №1 г. Слоніма
аб'яўляе НАБОР ВУЧНЯЎ
з 1-га па 10 клас уключна.

Для паступлення трэба прадставіць наступныя дакументы: 1. Заяву, 2. Даведку аб нараджэнні, 3. Даведку аб соцыяльным паходжанні і соцстановішчы, 4. Пасведчанне аб адукацыі.

Дакументы ад паступаючых прымаюцца штодзённа, апрача выхадных.

Дакументы трэба падаваць па адрасу:
Чырвонаармейская, 37 і Совецкая, 10.

Дырэкцыя.

У арцелі „ХІМТРУД"
адкрыта ПРАЛЬНЯ І ХІМЧЫСТКА
Прымаецца розная бялізна і плацце.
Прыёмная знаходзіцца па Ружанскай вул. у радах.
Яна працуе з 10 гадзін раніцы да 6 гадзін веч.

# Міністр з урада Леніна і лекцыя ў Слоніме

9 лютага 1930 года ў Слоніме, які знаходзіўся тады ў складзе польскай дзяржавы, мусіла адбыцца дзіўная падзея. З "сенсацыйнай" лекцыяй збіраўся выступіць былы міністр з бальшавіцкага ўрада Леніна ў Расіі. Улады Польшчы былі антысавецкімі, але гэтае мерапрыемства дазволілі, паколькі госць прыехаў не з-за ўсходняй мяжы, а з-за заходняй.

У наш горад тады хацеў прыехаць Ісаак Штэйнберг (1888 — 1957), дзеяч яўрэйскага і міжнароднага сацыялістычнага руху. У той час ён жыў у Берліне. Газета "Навагрудскае жыццё" паведамляла, што Штэйнберга запрасіла мясцовая арганізацыя правага крыла яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі "Паалей Цыён". Даклад меў назву "Мае ўспаміны, як камісара юстыцыі СССР". Газета пацвярджала, што Ісаак Штэйнберг не махляр, ён сапраўды займаў згаданую пасаду, але быў расчараваны дзейнасцю бальшавікоў і *"збег за мяжу"*. Ён таксама збіраўся прачытаць лекцыю ў Варшаве, але там адбыліся камуністычныя акцыі супраць гэтага мерапрыемства.*

Штэйнберг — ураджэнец Дзвінска (цяпер Даўгаўпілс у Латвіі). З 1905 года ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху, быў сябрам партыі эсэраў. Два гады правёў у высылцы, пасля якой была эміграцыя, вучоба ва ўніверсітэце і вяртанне ў Расію. У 1917-м Ісаак Штэйнберг быў сябрам ЦК партыі левых эсэраў, асудзіў бальшавіцкі пераварот. Тым не менш, ён са снежня 1917-га да сакавіка 1918 года ўваходзіў у Савет народных камісараў савецкай Расіі (не СССР, якога яшчэ не было), быў народным камісарам (міністрам) юстыцыі. Ну а старшынём Саўнаркаму быў той самы правадыр бальшавікоў Уладзімір Ленін. Штэйнберг вызваляў палітвязняў, з-за чаго меў канфлікт з кіраўніком чэкістаў Дзяржынскім. З пасады народнага камісара ён сышоў сам — пратэставаў супраць падпісання бальшавікамі Брэсцкага міру. У 1919-м ён сам трапіў за краты і правёў у турме некалькі месяцаў. За мяжу Ісаак Штэйнберг выехаў у 1923 годзе, быў пазбаўлены савецкага грамадзянства. Жыў у Германіі, Англіі, Аўстраліі, ЗША. Памёр у Нью-Ёрку.

У Слоніме ўзнік пэўны ажыятаж вакол запланаванай лекцыі. Аднак пасля ўзнікнення праблем у Варшаве, дзе выступ Штэйнберга адмянілі, мерапрыемства не адбылося і ў нашым горадзе. Інфармацыю пра гэта ў апошні момант перадалі праз тэлеграф.** Магчыма, што эмігрант і не сам прыняў рашэнне, бо быў *"вымушаны… выехаць у Берлін"*. Відаць, улады Польшчы параілі яму гэта зрабіць, калі пабачылі, што "камуністычныя элементы" гатовыя ладзіць правакацыі.

●Генадзь Гурскі


*Ісаак Штэйнберг*

**Odczyt min. przy rządzie Lenina w Słonime // Życie Nowogródzkie, 1930, № 31, 6 лютага.*

***Odwołanie odczytu b. ministra w rządzie Lenina // Życie Nowogródzkie, 1930, № 34, 9 лютага.*


Odczyt min. przy rządzie
Lenina w Słonimie


*Штэйнберг (крайні злева) ва ўрадзе Леніна*

# Прастытуцыя ў Слоніме ў міжваенны час

Пад польскай уладай у 1920-1930-я гады прастытуцыя забаронена не была, аднак па-за законам апынуліся публічныя дамы і сутэнёрства. Прастытуткі мусілі зарэгістравацца і рэгулярна праходзіць медагляд. Аднак і нелегальная прастытуцыя нікуды не знікла. У першай палове 1920-х гадоў якраз яна шмат у якіх гарадах перавышала легальную, але пасля паступова пачаўся адваротны працэс.

Безумоўна, на маральнасць людзей моцны ўплыў зрабіла вайна. Падчас Першай сусветнай значная частка нашых землякоў апынулася ў бежанстве — у Расіі, ва Украіне. Тыя, хто вярнуўся ў 1921-1922 гадах, складалі ў Слонімскім павеце амаль 35% усяго насельніцтва. Для параўнання — у Навагрудскім павеце такіх было 10,8%, у Лідскім — 12,6%, у Баранавіцкім — 30,6%.[1] Польскія ўлады адзначалі пашыраныя сярод былых бежанцаў бальшавізм і атэізм. Існавала праблема нелегальных абортаў, у тым ліку і ў вёсках. А яшчэ вельмі часта да прыватных і грамадскіх памяшканняў падкідалі немаўлят… Паліцыя не магла саўладаць з крыміналам, пашырэнню якога спрыяла беспрацоўе. Хапала вар’ятаў, сексуальна заклапочаных людзей. Вясной 1936-га паліцыя налічыла ў Слоніме два дзясяткі выпадкаў, калі невядомы ззаду падымаў плашчы жанчынам.[2]

У Слоніме ў 1929 годзе налічвалася 8 зарэгістраваных прастытутак.[3] Гэта ў некалькі разоў менш, чым было ў сярэдзіне XIX стагоддзя.[4] Тыя ж 8 прастытутак згадваюцца ў гадавой справаздачы пра санітарны стан за 1930 год.[5] Былі выкрыты 6 выпадкаў нелегальнай прастытуцыі. Лекар аглядаў прастытутак за год 580 разоў. Было 5 выпадкаў, калі выяўляліся захворванні. Чатырох прастытутак са Слоніма накіравалі ў нейкі спецыялізаваны шпіталь у Пінск.



*Віленскія прастытуткі, 1920-я гады*

З паведамленняў тагачаснай прэсы вядома, што прастытуткі найчасцей вечарамі шукалі кліентаў на вуліцы 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейская). І гэта не дзіўна — вуліца вяла да вайсковых частак. Менавіта вайскоўцы складалі значную частку кліентуры слонімскіх прастытутак.

Жыхары згаданай вуліцы скардзіліся ўладам, што ў цёмны час сутак там пануюць “крымінальныя элементы” і працуюць прастытуткі. І моладзь, якая позна ўвечары вярталася з кінатэатра, станавілася сведкамі сцэн, “ад якіх павінна быць як надалей”.[6] У той жа Вільні фіксаваліся факты, калі прастытуткі абслугоўвалі кліентаў проста ў

паркy на лаўках, на вуліцы пры міжвольных сведках.[7]

Прастытуткі працавалі і ў шматлікіх мясцовых гатэлях (напрыклад, у “Парыжы”). У крымінальную хроніку траплялі паведамленні пра тое, што ў кліентаў пасля “рамантычнай сустрэчы” часам знікала больш грошай, чым было дамоўлена. Прымалі кліентаў прастытуткі і па месцы жыхарства. Ёсць паведамленне адной старажылкі пра “кропку” на Замкавай вуліцы (цяпер — Камсамольская), але яна няпэўная (нібыта, на доме “чырвоны ліхтар вісеў”). Наўрад ці там быў нелегальны публічны дом, хутчэй жыла легальная прастытутка.

Малаверагодна, каб у сярэдзіне 1930-х колькасць прастытутак у Слоніме істотна вырасла. Яны канцэнтраваліся ў вялікіх гарадах, дзе былі больш заможныя і шматлікія кліенты. У 1935-1936 гадах у Вільні налічвалася 584 зарэгістраваных прастытутак, у Варшаве — 3743, у Львове — 1061.[8] Былі сланімчанкі, якія ехалі ў гэтыя гарады для падобнай працы. А ў 1938-м у Варшаве

Prostytutki: - zarejestrowanych - 8; wykryto tajnej prostytucji - 6; oględzin dokonano - 580; chorych

być jaknajdalej. Ulica ta jest za zezwoleniem władz najbardziej uczęszczana przez prostytutki.

судзілі 19-гадовую сланімчанку, падазравалі, што яна — *“сутэнёрша для непаўналетніх дзяўчат”*. Яе ў выніку апраўдалі і вызвалілі.[9]

Даследчык Ігар Мельнікаў піша, што ў польскай сталіцы ў 1930-я працавала нямала ўраджэнак Заходняй Беларусі, у асноўным з бедных сем’яў. Сярод іх быў падзел. Напрыклад, “мамзелі” — гэта найбольш танныя жанчыны з правінцыі, “ваўчыцы” — гэта тыя, хто шукаў кліентаў каля вайсковых казармаў. За гадзіну працы прастытутка атрымлівала каля 1,5 злотага. За гэтыя грошы ў той час можна было купіць 5 кілаграмаў селядца, 3 кілаграмы цыбулі, кілаграм ялавічыны з косткай, або двойчы паабедаць у танным рэстаране. Але адзін злоты забіраў сутэнёр, калі такі быў.[10]

Прастытуцыю ў Заходняй Беларусі, у тым ліку і ў Слоніме, ліквідавалі савецкія ўлады ў 1939 годзе.

●Генадзь Гурскі



Min. Spraw Wewn.
KOMENDA GŁÓWNA POLICJI PAŃSTWOWEJ.
No.22926.

Warszawa, d.30 sierpnia 1927 r.

972

Praca dr.Macko p.t. "Prostytucja" - zawiadomienie o ukazaniu się.

Do
Wszystkich PP.Komendantów Wojewódzkich Policji Państwowej.

Podaję do wiadomości PP.Komendantów, że ukazała się praca dr.Macko p.t."Prostytucja", wydana przez Polski Komitet Walki z Handlem Kobietami i Dziećmi.

Praca ta może się okazać pożyteczną dla tych wyższych funkcjonarjuszów, których zagadnienie prostytucji i nierządu specjalnie interesuje.-

KOMENDANT GŁÓWNY P.P.
/-/Maloszewski - pułkownik.

Otrzymują:
[illegible]
[illegible]
[illegible]
Wydziały I-IV K.Gł.P.P.
Inspekcja K.Gł.P.P.
Główna Szkoła Policyjna
Wszyscy Kom.Woj.P.P.
Gazeta Adm.i P.P.

Za zgodność:
[illegible]

9.9.27.

*Такі дакумент слонімская паліцыя атрымала ў жніўні 1927-га. У ім рэкламавалася праца нейкага доктара Мацко пра прастытуцыю*

*[1] Życie Nowogródzkie, 1928, № 101, 19 траўня.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 101, 11-12 красавіка.*

*[3] Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 197.*

*[4] Гурскі Г. Прастытуцыя ў Слоніме ў XIX стагоддзі // Слонімскі край, 2018, № 10(32). Кастрычнік. С. 13.*

*[5] Фотакопія рукапісу ў архіве аўтара.*

*[6] Życie Nowogródzkie, 1930, № 157, 10 ліпеня.*

*[7] Kuzma-Markowska S. Wiele twarzy “nierządu”. Prostytucja w międzywojennym Wilnie // Margines społeczny Drugiej Rzeczpospolitej. Metamorfozy społeczne, t. 6, Warszawa, 2013. S. 301.*

*[8] Klos K. Prostytucja w Krakowie międzywojennym 1918–1939 // Klio. Czasopismo poświęcone dziejom Polski i powszechnym (Toruń). 2014. № 4. T.31. S. 92.*

*[9] Іванова Н. Як у Варшаве судзілі 19-гадовую сутэнёршу са Слоніма // Газета Слонімская, 2015, № 16, 15 красавіка. С. 8.*

*[10] Мельнікаў І. “Мамзелі” і “ваўчыцы” Заходняй Беларусі // Новы час, 2018, 7 жніўня; https://novychas.by/poviaz/mamzeli-i-vauczycy-zahodnjaj-belarusi*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г.,№ 5(39), № 7(41), 2019 г.; № 5(51), № 6(52), № 7(53), № 8(54), 2020 г.*



## 1933

У "клясе В" баранавіцкай падакругі футбольнага першынства Віленскай акругі, як і ў 1932-м, у 1933 годзе наш горад быў прадстаўлены камандай Makabi Słonim. "Макабісты" гулялі ў Баранавіцкай групе, у якой уласна каманд з Баранавічаў не было (яны выступалі ў "клясе А"). Яе складалі слонімцы, а таксама каманды Makabi Nowogródek і PKS Lida. У "клясе В" была і Віленская група. Вядомы расклад гульняў Makabi Słonim, але невядомыя вынікі матчаў. 17 чэрвеня мусіў адбыцца паядынак у Лідзе, 24 чэрвеня дома з аднаклубнікамі з Навагрудка, 8 ліпеня таксама на сваім поле — з лідскімі паліцэйскімі і 15 ліпеня — у Навагрудку.[1] Няма дакладнай інфармацыі і ў кнізе польскага даследчыка Яна Гаксіньскага. Ён толькі згадвае "Навагрудскую падакругу", за перамогу ў якой нібыта змагаліся PKS Lida і Makabi Baranowicze.[2]

Вясной 1933 года гарадскі стадыён быў агароджаны *"прыгожай металічнай сеткай"* (відаць, раней быў драўляны плот). Таксама збудавалі і драўляную браму на ўваходзе.[3] Там рэгулярна адбываліся спартыўныя святы. Напрыклад, у сярэдзіне ліпеня праходзіла свята спартыўнага клуба "Макабі". У яго рамках мусіў прайсці футбольны матч аб'яднаных каманд "Макабі" са Слоніма і Баранавічаў — з аднаго боку, і супольнай дружыны 79-га і 80-га пяхотных палкоў (WKS). У мясцовай прэсе часта давалі анонсы матчаў, але не паведамлялі вынікі…

У пачатку жніўня "Навагрудскі кур'ер" апублікаваў зацемку, прысвечаную арганізаванаму спорту ў Слоніме. Падкрэслівалася паспяховая дзейнасць "Макабі" і адсутнасць падобнага моцнага польскага клуба. Аўтар публікацыі згадаў пра дружыну "Sparta", якая па-ранейшаму існавала пры пошце, і прапанаваў яе падтрымаць, як *"адзіны польскі спартыўны клуб у Слоніме"*.[4] Як бачым, нягледзячы на заяву футбалістаў у 1932-м, што іх каманда называецца Pocztowy kłub sportowy (PKS), прэса яе ўсё роўна называла "Sparta". Таксама заслугоўвае ўвагі і тое, што аўтар не згадаў армейскіх клубаў. Яны ўсё ж існавалі ў сваім вайсковым серадовішчы і не мелі сувязяў з мясцовым грамадствам.

Першы футбольны матч сезону 1933 года, пра які нам вядома, адбыўся ў пачатку жніўня. Гэта быў таварыскі паядынак "Спарты" і "Макабі". Яго судзіў ужо вядомы нам "пан Яраш". Яўрэйская каманда перамагла "на класе" — 2:0. Пры гэтым перавагу мелі паштавікі, але яны не рэалізавалі свае створаныя моманты. Заўзятары праз прэсу заклікалі польскую каманду больш трэніравацца.[5]

"Спарта" і "Макабі" сустрэліся зноў у пачатку верасня. На гэты раз паштовая каманда выйграла — 5:3. Цікава, што "Спарта" была ў асбаленым складзе — не было футбалістаў Паўліцкага, Дружылоўскага і Нізёлкаў. Але тыя новыя гульцы, якія іх замянілі, згулялі добра. Найлепшым на полі прызналі футбаліста "Спарты" Храноўскага. Судзіў "пан Касоўскі". Колькі было заўзятараў, невядома (у рэпартажы адзначалася, што *"даволі шмат"*).[6]

У кастрычніку 1933 года адбыўся ўжо традыцыйны чэмпіянат Слоніма. У перыядычным друку ён асвятляўся фрагментарна. За пераходзячы кубак спаборнічалі не менш за пяць каманд — Makabi Słonim, Sparta, WKS 79pp

Słonim, WKS 80pp Słonim і Szkoła Rolnica Żyrowice. Нам вядомы вынікі трох матчаў. Жыровіцкія хлопцы ў прысутнасці каля тысячы заўзятараў з лікам 3:1 перамаглі футбалістаў "Спарты". Судзіў паядынак паручнік Гупалоўскі. У наступным матчы гэты арбітр ужо быў футбалістам каманды 80-га палка. У ёй ён быў найлепшым разам з Ярашам і Келякам. Армейцы прадэманстравалі *"дасканалую тэхніку і камбінацыйную гульню"* і выйгралі ў "Макабі" з лікам 4:2. У апошняй каманды найлепшым прызналі Мінца. На стадыён прыйшло 2 тысячы заўзятараў. Суддзіў паядынак "пан Каханьскі".[7]

Апошні вядомы нам матч прайшоў 21 кастрычніка. На гарадскім стадыёне гулялі вайскоўцы з каманды 79-га палка і "Макабі". Армейцы перамаглі — 4:1. Матч скончыўся скандалам і крымінальнай справай. Справа ў тым, што сярод шматлікіх



заўзятараў большасць складалі тыя, хто балеў за "Макабі". Іх каманда прайгравала і яны, відаць, пачалі сваімі рэплікамі "нерваваць" армейцаў. У нейкі момант "узнікла спрэчка" паміж заўзятарамі — вайскоўцамі і яўрэямі. Падчас яе слонімец Эля Куніца, які жыў па вуліцы Маршалка Пілсудскага, 9 (цяпер — Савецкая), назваў групу падхарунжых 79-га палка *"польскімі свінямі"*. Яго прыцягнулі да крымінальнай адказнасці.[8]

Хто ж перамог у чэмпіянаце, на жаль, пакуль застаецца невядомым.

●Сяргей Ёрш

Працяг у наступных нумарах

*[1] Okręgowe rozgrywki w piłce nożnej woj. wileńskiego (1933) // https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1933)*

*[2] Goksiński J. Klubowa historia polskiej piłki nożnej do 1939 roku. Tom I. —Warszawa, 2013. S.199.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 155, 9 чэрвеня.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 211, 5 жніўня.*

*[5] Mecz piłki nożnej // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 215, 9 жніўня.*

*[6] Mecz piłki nożnej w Słonimie // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 244, 7 верасня.*

*[7] Mecz piłki nożnej // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 279, 12 кастрычніка.*

*[8] Mecz w Słonimie // Kurjer Nowogródzki, 1933, № 292, 25 кастрычніка.*

# Краязнаўчыя кнігі

У Гродне выйшлі адразу дзве кнігі, прысвечаныя гісторыі Дзятлаўшчыны. Іх аўтары — краязнаўцы Міхаіл Лук'янчык і Алена Абрамчык. Яны пастараліся цікава і змястоўна распавесці пра мінуўшчыну далёкую і блізкую. Кнігі будуць цікавыя і слонімцам.







Усе нумары гісторыка-краязнаўчага месячніка "Слонімскі край" за 2016-2020 гады можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Працяг, пачатак у № 5-8, 10-11, 2019 г., 3, 4, 6, 2020 г.*

## Адукацыя ў Слоніме

Нягледзячы на вайсковы стан, школьныя справы ў Слоніме пад нямецкім кіраўніцтвам паспяхова развіваюцца. Немагчыма было арганізаваць зноў працу ўсіх школаў. Напрыклад, у прагімназіі заняткі яшчэ не пачаліся. Затое ў іншых школах навучанне паспяхова пачалося.

Раней у яўрэйскіх народных [пачатковых] школах было забаронена выкладанне на роднай мове. Усё адбывалася толькі на рускай мове. Выключэннем былі ўрокі іўрыта. Цяпер гэтая забарона знятая. З натхненнем сустрэлі мясцовыя жыхары адмену гэтых абмежаванняў. Яны пачалі весці энергічную працу, каб арганізаваць выкладанне на роднай мове. Дзе не хапае настаўнікаў мужчын, іх месцы займаюць дзяўчыны і жанчыны з мясцовай інтэлігенцыі. Вучэбны план яўрэйскай народнай школы ўключае іўрыт, ідыш, чытанне, пісьмо, размову, арыфметыку, біблію і прыродазнаўства. Да абеду займаюцца хлопчыкі, пасля абеду займаюцца дзяўчынкі.



*Слонімскія дзеці падчас Першай сусветнай вайны / fotopolska.eu*

Пасля заняцця горада нямецкай арміяй школы знаходзіліся ў жаласным стане. Дзесьці вокны былі забіты дошкамі, перакошаныя дзверы, цесныя класы, нізкія столі. Цяпер справа выпраўляецца.

Дзякуючы нямецкаму кіраўніцтву, у школах з'явілася электрычнае святло.

Акрамя яўрэйскіх школ у горадзе дзейнічае і польская народная школа пры манастыры бернардзінак.

Малодшы лейтэнант Фэст

*Kriegszeitung von Baranowitschi ("Ваенная газета ў Баранавічах"),1917, № 56, 14 ліпеня.*



## Нямецкая магіла XIX стагоддзя

У канцы восені 1916 года малодшы лейтэнант нямецкага войска Вальтэр Фэст гуляў па слонімскіх могілках каля Ружанскай вуліцы. У той дзень у яго быў сумны настрой — бачыў шэрагі белых крыжоў загінулых у баях 1915-га вайскоўцаў. Ён хадзіў сярод магіл і раптам знайшоў нямецкае пахаванне XIX стагоддзя. Пра гэтую знаходку Фэст напісаў у баранавіцкую газету.*

Хто ж там быў пахаваны? Эліза Дыдрыхзон (Кляйн), якая памерла ў 1866 годзе, і памерлая ў 1863-м Караліна Кляйн. Ці не на Лютэранскія могілкі**, рэшткі якіх знаходзяцца насупраць Ружанскіх могілак (праз вуліцу) заблукаў Вальтэр Фэст?

Пераклаў
●Ігар Падгарадзецкі

**Deutsche kriegszeitung von Baranowitschi ("Нямецкая ваенная газета ў Баранавічах"), 1916, № 98, 6 снежня.*

***Пра гэтыя могілкі была публікацыя ў "СК": Герасімчык В., Ёрш С. Які лёс чакае Лютэранскія могілкі ў Слоніме? // Слонімскі край, 2016, № 8. Верасень. С. 6-7.*

ХРОНІКА

# Госці з Мінска




*Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Ігар Сергяенка наведаў Слонім 21 ліпеня, пабываў на камвольна-прадзільнай фабрыцы і кардонна-папяровым заводзе*



*2 тысячы чалавек на стадыёне "Дынама" ў Слоніме 1 жніўня на сустрэчы з кандыдатам у прэзідэнты Святланай Ціханоўскай*

УСПАМІНЫ

# На ўздыме

*1912-1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі*

Гэтыя ўспаміны напісаў бальшавік Якуб Куніца, удзельнік рэвалюцыйных падзей на Слонімшчыне ў пачатку XX стагоддзя. Яны былі апублікаваны ў мінскім часопісе “Полымя” 90 гадоў таму.[1] Можна сказаць, што гэта працяг успамінаў А. Левандоўскага, які апісаў падзеі 1905-1906 гадоў.[2] Куніца асвятляе час перад Першай сусветнай вайной і даводзіць свой аповед да вясны 1919-га.

Якуб (Якаў) Залманавіч Куніца нарадзіўся ў Слоніме ў 1893 годзе ў беднай яўрэйскай сям’і. Ён скончыў мясцовую рэальную вучэльню, удзельнічаў у рэвалюцыйным руху. У 1918 годзе стаў сакратаром падпольнага камітэта бальшавікоў Слонімшчыны. Якаў і Залман Куніцы ўваходзілі ў ініцыятыўную групу па скліканні ў снежні 1918-га павятовага з’езду.[3] Пасля Якуб Куніца быў членам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ў Слоніме. Калі павет



*Якуб Куніца*

быў заняты польскімі войскамі, нейкі час партызаніў. Пасля вайны жыў у савецкай Беларусі.[4]

Куніца быў выкладчыкам, а з лета 1924-га — начальнікам Гомельскай тэхнічнай вучэльні.[5] Восенню 1923 года яго абралі дэпутатам Гомельскага гарадскога савета, прадстаўлялі, як былога “эсэра-максімаліста”.[6] Сам ён пра гэты эпізод сваёй біяграфіі змаўчаў.

З лютага 1930-га слонімец жыў у Мінску, быў рэктарам Беларускага палітэхнічнага інстытута.[7] Яго рэпрэсавалі. Арыштавалі ў 1937 годзе, калі Якуб Куніца жыў у Пяцігорску. Але ў пачатку 1939-га рэабілітавалі і вызвалілі.[8]

У пасляваенны час слонімец жыў у Маскве, спрабаваў свае сілы, як літаратар. Напісаў працу па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Слонімшчыне.

Тэкст успамінаў адаптаваны да цяперашняга правапісу, заменены некаторыя русізмы, выпраўлены памылкі. Трэба мець на ўвазе час іх напісання, а таксама заангажаванасць аўтара ў дзейнасць бальшавікоў. Таму і няма аб’ектыўнасці ў асвятленні дзейнасці і яўрэйскіх партый, і беларускіх актывістаў. Аднак Якуб Куніца захаваў для гісторыі нямала цікавых і важных фактаў.

## *Прамысловасць і рабочы рух у раёне напярэдадні вайны 1914 года*

Да пачатку імперыялістычнай вайны прамысловасць у Слонімскім раёне Заходняй Беларусі заўважна вырасла ў параўнанні з тым становішчам, якое склалася ў першыя гады рэакцыі, у гады заняпаду і прамысловага застою. У 1912-1914 гадах у раёне ўжо налічвалася: два заводы па вырабе цвікоў, некалькі чыгунна-ліцейных, запалкавая фабрыка, шоўкава-прадзільная, фабрыка хустак, шэраг тэкстыльных прадпрыемстваў у мястэчку Ружаны, некалькі новых гарбарань, тартакоў, бровараў і інш. Усе гэтыя прадпрыемствы былі большай часткай дробных і сярэдніх памераў, якія налічвалі па 30-250 рабочых, не больш. У металаапрацоўчай, тэкстыльнай і гарбарнай прамысловасці захаваліся старыя кадры рабочых, бо шэраг прадпрыемстваў гэтых галін прамысловасці былі пабудаваны ў раёне яшчэ да рэвалюцыі 1905 года. Прычым у металаапрацоўчай прамысловасці пераважалі рабочыя-беларусы і палякі, а ў тэкстыльнай і гарбарнай — рабочыя-яўрэі. На тартаках і гарбарнях, на запалкавай фабрыцы большасць была рабочых-беларусаў. Прычым пераважала сялянская моладзь, якая вербавалася з ваколічных вёсак. У саматужных прадпрыемствах швейнай, абутковай, харчовай і будаўнічай прамысловасці працавалі значныя групы яўрэйскай рабочай моладзі.

Рабочы рух, які ўзмацніўся ў сувязі з прамысловым уздымам, выліўся ў шэраг забастовак, якія, аднак, аж да вайны 1914 года не перараслі ў масавы рух. Забастоўкі ахаплялі большай часткай невялікія групы рабочых і то, галоўным чынам, дробнай саматужнай прамысловасці, праходзілі неарганізавана і заканчваліся неадкладна, як толькі прыходзілі да той ці іншай кампраміснай згоды з гаспадарамі. Тлумачыцца гэта тым, што бальшавіцкай арганізацыі ў раёне не было. Арганізацыі Бунду, “Паалей-Цыён”, “сіяністаў-сацыялістаў”, усе дробнабуржуазныя яўрэйскія арганізацыі, якія некалькі ажывілі сваю дзейнасць у перыяд 1912-1914 гадоў, уцягнулі ў свае



шэрагі невялікія групы рабочай яўрэйскай моладзі, занятай у асноўным у саматужнай прамысловасці, служачых і саматужнікаў [рамеснікаў]. Праводзячы месяцы і гады ў дробных сварках і спрэчках паміж сабой, гэтыя арганізацыі ўсёж адзіным фронтам праводзілі працу па адрыве паасобных груп яўрэйскіх рабочых ад агульнай масы рабочых, па ўзмацненні тых шавіністычных настрояў, якія ў масе яўрэйскіх рабочых падтрымліваліся дробнабуржуазным атачэннем.

Напярэдадні вайны таксама ажывілі сваю дзейнасць паасобныя групы рабочых і інтэлігентаў, якія належалі да саюзу "Максімалістаў". Яшчэ ў 1906 годзе, над напорам наступаючай рэакцыі з аднаго боку, і адыходу ад рэвалюцыі дробнабуржуазнай інтэлігенцыі і часткі рабочых — з другога, — групы рабочых, безумоўна, настроеных рэвалюцыйна, выйшлі з шэрагаў Бунду, меншавікоў і эсэраў, і ўліліся ў атрады анархістаў і максімалістаў.

Непамерна жорсткія расправы з боку ўраду, здрады з боку тых, каго яшчэ ўчора лічылі сябрамі і рэвалюцыянерамі, жаданне хутчэйшай і рашучай перамогі над жорсткім ворагам, жаданне помсты за пралітую кроў, за расстрэлы і шыбеніцы, — штурхнулі групы рабочых, якія згубілі веру ў магчымасць арганізаванай перамогі і якія захапіліся рэвалюцыйнай фразай і настроямі, дзейнічаць рашуча і бязлітасна, на шлях экспрапрыяцыі і тэрарыстычных актаў. Ахапляючы групы гарадскіх рабочых, пераважна саматужнай і гарбарнай прамысловасці, паасобных металістаў асады Альбэртын і тэкстыляў мястэчка Ружаны, групы максімалістаў і анархістаў Слонімскага раёна склаліся і праводзілі сваю працу пад ідэйным кіраўніцтвам і пры непасрэднай дапамозе вялікай арганізацыі максімалістаў і шматлікіх груп анархістаў недалёкага Беластоцкага раёна.

Ад асноўнай масы рабочых максімалісты таксама былі адарваны, не праводзілі сярод іх ніякай працы, не цікавіліся зусім пытаннямі забастовачнай барацьбы, пытаннямі штодзённага жыцця рабочых. Становучая роля ў дзейнасці паасобных максімалістаў выражалася толькі ў тым, што на масавых падпольных сходах яны часта выступалі з рэзкай крытыкай нацыяналістычнай тэорыі і практыкі яўрэйскіх дробнабуржуазных арганізацый, што ў спрэчках паміж бальшавіцкай і меншавісцкай фракцыямі Дзяржаўнай думы [Расіі], паміж газетай *"Правда"* і *"Луч"*, яны заўсёды трымалі бок бальшавікоў. Але абараняючы быццам бальшавікоў, яны скарыстоўвалі гэта толькі як сродак свайго наступлення супраць Бунду і іншых, а ад саміх сябе яны ж неслі такую ж дробнабуржуазную "ерась", прыкрываючыся толькі "левымі" рэвалюцыйнымі фразамі.

Такім чынам, ні максімалісты, ні Бунд, ні іншыя дробнабуржуазныя арганізацыі сярод рабочых асноўных прадпрыемстваў раёна ніякай працы не вялі і не карысталіся сярод іх ніякім уплывам. І хваля рэвалюцыйнага ўздыму, якая пракацілася ў перыяд 1912-1914 гадоў ва ўсіх прамысловых раёнах Расіі, зусім слаба закранула гэтыя групы рабочых, а паасобныя забастоўкі, якія выбухалі на тым ці іншым прадпрыемстве, з-за адсутнасці кіраўніцтва і адпаведнай агітацыйнай працы хутка ліквідаваліся і досыць часта не з карысцю для рабочых.

●Якуб Куніца

Працяг у наступным нумары

*[1] Куніца Я. На ўздыме (1912-1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі) // Полымя (Менск), 1930, Кн. 9-10, верасень-кастрычнік. С. 156-167.*

*[2] Левандоўскі А. Рэвалюцыйны Слонім // Слонімскі край, 2019, № 8-12, 2020. № 2-8.*

*[3] Шпыркова І. У гады грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі // Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 152.*

*[4] Жукоўскі А. Жыццёвы шлях камуніста // За перамогу камунізма (Слонім), 1973, №117, 29 верасня.*

*[5] История колледжа // http://ggkjt.bsut.by/*

*[6] Глушаков Ю. Закрыть притоны, открыть кинотеатры. Что требовали от депутатов избиратели 100 лет назад // 2016, 16 ліпеня; https://news.tut.by/society/504508.html*

*[7] За перамогу камунізма (Слонім), 1973, №117, 29 верасня.*

*[8] Куница Яков Зальмович // http://chumakou.com/projects/belarus1937/d184.html*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Вучні Хадзявіцкай школы, 1935-1936 гады



Часта бываю ў роднай вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне, дзе стаіць яшчэ дзедава хата — мой летнік. На днях зноў наведаў сваю вясковую сядзібу. Ідучы па вуліцы, сустрэў аднакласніка Сяргея Акулку, які паказаў мне і падараваў рэдкі стары фотаздымак. На ім адлюстраваны вучні Хадзявіцкай польскай школы 1935-1936-х гадоў.

На пярэднім плане сядзіць злева чацвёртая ў белай сукенцы маці Сяргея Акулкі — Вольга Акулка (Рагозік). Злева ад яе і за спіной Вольгі ўдалося разгадаць яшчэ некалькі юных хадзяўцоў — Кацярыну Клыбік, Міхаіла Жука, Мікалая Ігнатовіча, Аляксея Шундрыка, Івана Акулку, Веру Рагозік, Ганну Клыбік, Уладзіміра Важэйку, Міхаіла Шкляра, Вольгу Важэйку, Вольгу Раманчук. Астатніх прозвішчы аднавіць не ўдалося. Усе яны — 1920-х гадоў нараджэння.

Пасярэдзіне вясковых хлопчыкаў і дзяўчынак сфатаграфавана настаўніца-полька, якая вучыла дзяцей. Як звалі настаўніцу — невядома. З усіх гэтых школьнікаў сёння жыве толькі Ганна Клыбік (Акулка), ёй ужо 96 гадоў. Але жанчына адчувае сябе нядрэнна, нават у агарод ходзіць, капае бульбу, зрывае вішні і чарэшні.

Здымак быў зроблены на ганку старой школы. Яе нядаўна раскідалі супрацоўнікі МНС, таму што будынак школы пуставаў і сцены з дахам мелі аварыйны стан. Пра той даваенны час і пра знешнюю беднасць хадзявіцкіх вясковых хлопчыкаў і дзяўчынак і нагадвае гэты стары фотаздымак.

●Сяргей Чыгрын

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.